# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1788) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 19 ЖНІЎНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.


# ГРАБАРКА



Грабарка, самы вялікі паломніцкі цэнтр Праваслаўнай Царквы, з'яўляецца месцам пілігрымак не толькі для вернікаў праваслаўя. Штораз часцей можна тут сустрэць вернікаў іншых касцёлаў, асабліва ў дзень Праабражэння Гасподняга (19 жніўня). У склад гэтага праваслаўнага санктуарыя ўваходзяць да нядаўна драўляная царква Праабражэння Гасподняга (згарэла 12 ліпеня г.г., аб чым „Ніва" пісала ў 31 нумары ад 5 жніўня 1990 г.); жаночы манастыр, могільнік і каплічка з крыніцай ля падножжа Святой Гары. Спаленая царква была пабудавана ў II палавіне XIX ст. на месцы капліцы з XVIII ст. і была абведзена лесам пакутных крыжоў з гэтага і мінулых стагоддзяў. З 1947 г. на Грабарцы дзейнічае жаночы праваслаўны манастыр св. св. Марфы і Марыі. У манастыры побач з жыллёвымі і гаспадарчымі будынкамі знаходзіцца царква Божай Маці Апякункі.

Гісторыя падляшскага праваслаўнага свяцілішча з-за адсутнасці пісьмовых крыніц застаецца ў сферы гіпотэз. Аднак можна меркаваць, што гэты паломніцкі цэнтр мае шматвяковую традыцыю. Грабарка ляжыць між Мельнікам і Драгічынам. Пачаткі праваслаўнай веры на гэтай тэрыторыі дасягаюць да XII ст. Тады ўзнікаюць першыя цэрквы ў гэтых мясцовасцях. Археалагічныя раскопкі паказваюць на цесныя кантакты надбужанскіх зямель з Уладзіміра-Галіцкай Руссю. Рускія крыніцы з XIII ст. пацвярджаюць гэтыя кантакты і ўпамінаюць аб існаванні цэркваў у Мельніку, Драгічыне і Бельску.

Пачаткі хрысціянства над Бугам і ўзнікненне паломніцкага цэнтра на Грабарцы раздзяляе прамежак часу. Аднак спалучае Грабарку з Мельнікам, Драгічынам і надбужанскім Суражам культ іконы „Спаса Ізбаўніка". Аўтар „Истории Русской Церкви" Яўген Галубінскі бачыў у найменнях цэркваў XV—XVI стагоддзяў паслядоўнасць традыцыі культу іконы Хрыста Збавіцеля. Культ Спаса быў шырока распаўсюджаны над Бугам. Іменем Спаса былі названы храмы ў Мельніку, Драгічыне, Суражы і Сямяцічах, а таксама самы старажытны драгічынскі манастырскі цэнтр.

Ікона „Спаса Ізбаўніка" першапачаткова знаходзілася ў царкве Багародзіцы ў Мельніку. У валынскім летапісе пад 1260 годам адзначаны паход рускіх князёў на Літву. *„(...) ехал Василько за брата и проводи его до Бреста и посла с ним люди своя и помолися Богу, святому Спасу Избавнику яже есть икона в городе Мельницы в церкви св. Богородицы и ныне стоит в величе чести, обещася Данило украсити ю".* Паводле меркаванняў Я. Галубінскага цудоўная ікона Збавіцеля, якая знаходзілася ў княжацкай царкве Багародзіцы, з боязі перад зніштажэннем была вывезена ў надбужанскія лясы перад нашэсцем татараў. Страх перад захопнікамі аказаўся абгрунтаваны. Татары разбурылі ў Мельніку царкву і княжацкі горад.

Валынскі летапіс паведамляе таксама аб зніштажэнні іншых гарадоў. Літоўскі князь Міндоўг паслаў свайго Эрдзівіла на рускія землі, каб той заняў разбураныя татарамі гарады Мельнік, Драгічын, Бельск, Бранск. Рускія гарады не маглі быць у XIII ст. прыстанішчам для асабліва шанаванай іконы. Ікона „Спаса Ізбаўніка" пасля татарскага паходу не вярнулася ў Мельнік. Прычынай гэтага было не знішчэнне татарамі царквы Багародзіцы, а адсутнасць зацікаўлення літоўскіх князёў развіццём культу іконы. Таксама пасля перадачы Ягайлам надбужанскіх зямель у 1390 г. маза-

(Працяг на стар. 2)



# НА ГРАБАРЦЫ, НЕКАЛІСЬ

Як усе праваслаўныя людзі ведаюць, 19 жніўня — свята Спаса. Шмат народу едзе на Грабарку маліцца. Ідуць паломніцтвы. Хто цягніком, а хто ўласным транспартам дабіраецца да Святой Гары.

Я прыехала напярэдадні свята. Ішоў дождж, але калі прыехалі ў Сычы, неба прасвятлела. На пераездзе сталі ахоўнікі чыгункі і назіралі за рухам людзей і самаходаў.

Ішлі дарогай, праз лес. Старым людзям ісці пад гару было даволі цяжка.

Непадалёк Святой Гары расклалі свае страганы гандляры. Шмат што можна было тут купіць — цукеркі, марожанае, цацкі для дзяцей, быў і страган з вопраткай...

Якраз пачалася вячэрня. Словы святара чуваць было праз гукаўзмацняльнікі. Каля сцежкі, што вяла на Гару, сталі людзі, якія збіралі грошы на пабудову новых цэркваў. Хто колькі мог, столькі і даваў.

Каля агароджанай студні дзяўчаты з праваслаўнага брацтва налівалі людзям ваду ў бутэлькі, збіралі ахвяраванні на пабудову дому паломніка.

На Святой Гары сталі крыжы рознай велічыні. Прынеслі і паставілі іх тут людзі, што прасілі здароўя сваім блізкім, хто іншы дзякаваў за аздараўленне.

Сцямнела, калі вячэрня канчалася. Святар, які працуе і жыве ў Варшаве, а родам з Семяноўкі, — Уладзімір Трусевіч — паведаміў вернікам парадак багаслужбаў у дзень 19 жніўня.

Шмат людзей пайшло спавядацца. Споведзь давала некалькі святароў — і да кожнага была чарга. Падслухала даволі забаўную размову. Бацюшка быў змучаны і папрасіў:

— Дайце мне передыхнуць трохі, я пайду, вып'ю чай і нешта з'ем.

— Не пускайма яго, — шапнулі жанчыны, — няхай спавядае далей.

— То ж ён таксама чалавек, — адазваўся мужчына.

— О не! — запярэчылі жанчыны. — Ён — святы!

Некалькі жанчын сядзела ў царкве і спявала царкоўныя песні. Каля падсвечнікаў завіхаліся дзяўчаты. Манахіня развяз-

(Працяг на стар. 4)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## Выхад з запаведніка

„Рэвалюцыя ў беларускай культуры Беласточчыны“ — так магу назваць першы фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча“. Аглядаў беларускай песні адбылося на Беласточчыне шмат. Чаму ж тады, нехта можа запытацца, прыдаю такое значэнне „Басовішчу“? Бо значэнне „Басовішча“ ў тым, што адолела яно некалькі бар'ераў, якія ў мінулым здаваліся быць па-за жыццёвымі магчымасцямі беларускай меншасці. У свой час, здавалася, беларуская культура была канчаткова асуджана на вясковасць. Фальклор і народная традыцыя могуць быць багатымі крыніцамі інспірацыі, але ў варунках жыцця нашай меншасці такая мадэль культуры сталася формай павольнага паміраньня. Пераход з вёскі ў горад, як правіла, канчаўся дэнацыяналізацыяй. У выніку стваралася форма існавання беларускай культуры на правах запаведніка: штодзень усё папольску (формай і зместам), зрэдчасу фестываль песні, на якім у фабрычна выкананых „народных“ строях аматарскія калектывы прэзентавалі фальклорныя напевы, дапасаваныя да панурай эстэтыкі новага мяшчанства.

На „Басовішчы“ загучала сучасная музыка. Сучасная, бо створаная ў сучасны момант. Сучасная ў разуменні сучаснай формы. Сучасная ў разуменні сучасных праблемаў. Сучаснай была таксама публіка, якая ўспрымала гэтую музыку не як водгук далёкага дзяцінства, а як частку свайго сучаснага жыцця.

Пра публіку можна агульна сказаць, што была яна маладая і без комплексаў. Не мае значэння, ці складала яе моладзь гарадская, ці вясковая, паколькі ўсе агулам прэзентавалі адзін тып пост-індустрыяльнай культуры. Усе яны з'явіліся на „Басовішчы“ ў пошуках нейкай формы выяўлення сваіх пачуццяў. Некаторыя з іх штодзённа карыстаюцца польскай мовай, але толькі адзінкі, як думаю, адносяцца да сваёй нацыянальнай тоеснасці абыякава.

Немалую частку публікі складалі госці з БССР. Хаця відаць была розніца ў паводзінах паміж імі і беластаччанамі, то ў агульнасці выявілася аднолькавая форма ўспрымання рэчаіснасці і маніфеставання жыццёвых паставаў. Каторы ўжо раз аказваецца, як слабой, у сэнсе культурастваральным, была камуністычная сістэма. На самай справе, „Басовішча“ сваёй формай і зместам пратэставала супроць камуністычнага таталітарызму.







„Басовішча“ было фестывалем нацыянальным. Паўнакроўна загучала на ім беларуская мова, натуральна, у беларускім асяроддзі. У шмат якіх песнях гучала ідэя нацыянальнай незалежнасці, а бел-чырвона-белыя сцягі публікі былі адказам. Здарылася мне пачуць, што „нармальнасць“ не патрабуе гэтых сцягоў. Мне якраз здаецца, што ў ненармальным становішчы краіны гэтыя сцягі і ёсць выяўленнем нармальнасці.

„Басовішча“ паказала некалькі жанраў музыкі, якія ў Беларусі не маюць вялікай традыцыі. Апрача актыўнага рока „Уліса“ і „Мроі“ была палітычная песня Сокалава-Воюша, грамадска-палітычная сатыра Шалкевіча, паэтычная песня Элі Бэзюк, Фіёніка і Леўчука, Касі Камоцкай. Было б пажадана, каб „Басовішча“ сталася стымулам для развіцця гэтых жанраў.

„Басовішча“ было імпрэзай дэмакратычнай. Калі ўжываю гэтае слова, то маю перш за ўсё на ўвазе дэмакратычны характар поп-культуры, які выразна адчуваўся на фестывалі. Разарвалася зачараванае кола „інтэлігенцкасці“ беларускай нацыянальнай культуры. Тэорыя „спружыны“, паводле якой меншасць мае быць цалкам асімілявана, апрача невялікай групы свядомай інтэлігенцыі, у даным выпадку не супадала з рэчаіснасцю. Вядома, не трэба праяўляць залішняга аптымізму ці рабіць абагульняльныя высновы на падставе адной імпрэзы. Паўтысячы маладых удзельнікаў „Басовішча“ — гэта яшчэ далёка няпоўная рэпрэзентацыя беларускай моладзі Беласточчыны. Выдаецца аднак, што пастаўлены першы крок, і вядома, як трэба паставіць наступны.

„Басовішча“ трэба арганізаваць штогод. Гасцінная гміна Гарадок, здаецца, была б найлепшым месцам. Фестываль можа стацца нагодай для канфрантацыі новых музычных дасягненняў, нейкай формай беларускага „Вудстока“. Ідэалам было б, каб людзі ехалі на „Басовішча“ з мэтай знайсці там асабістую свабоду. Свабоду ў сэнсе палітычным, у сэнсе светапогляду, свабоду таксама ў міжлюдскіх зносінах.

І яшчэ дзве справы. „Басовішча“ было часткова спансаравана нью-йоркскім гуртком „Васілёк“ і Арганізацыяй беларуска-амерыканскай моладзі. Факт, што маладыя амерыканцы беларускага паходжання лёгка зразумелі ідэі сваіх беластоцкіх сяброў, паказвае на універсальны характар нашага маладога руху. Ідэяй арганізатараў было стварэнне ўдзельнікам фестывалю магчыма найшырэйшага прастору для выяўлення індывідуальнага спосабу паводзін. Таму ўвесь рэгламент імпрэзы зводзіўся да неабходнага мінімума. „Басовішча“ ў аніякім выпадку не нагадвала гарцэрскага лагера. І трэба сказаць, што ўдзельнікі належна ацанілі гэта і паказалі высокі ўзровень культуры. Хацелася б падзякаваць усім прысутным.

**Удзельнік „Басовішча“**
**Валік Сельвясюк**
**Фота Пятра Савіцкага**



## НЯМА ВІНАВАТЫХ?

Сядаючы з абурэннем за машынку, каб апісаць бяздзейнасць нашай пошты, не хачу абразіць сумленных працаўнікоў гэтай установы. Але хачу, каб сумленныя саромеліся за несумленных. Тым больш абурае мяне факт, што, высылаючы нейкую пасылку, аплачваю без таргавання столькі, колькі вызначае сама пошта. Тым самым паміж мною і поштай заключаецца дагавор: „Я плачу, а ты выконваеш“.

Але ў нас не так, як усюды. У нас нярэдка прападае аплата за паслугу разам з пасылкай.

Раз паслаў я ў Варшаву „Ніву“, але адрасат яе не атрымаў, другі раз камусьці іншаму паслаў „Кантрасты“ і таксама прапалі. У абодвух выпадках паўторна высылаў і плаціў за перасылку. Трэці прыклад найноўшы. Калі „ахрысцілі“ жаночы калектыў з Дашоў „Калінай“ (а гэта было 17 лістапада 1988 г.), я ім паслаў прыгожае віншаванне. 17 чэрвеня гэтага года, у час фестывалю Беларускай песні ў амфітэатры сустрэў я гэтых жанчын і запытаў, ці атрымалі ад мяне пісьмо. Аказалася, што ўпершыню аб гэтым пачулі.

Як мне, звычайнаму чалавеку, здаецца, не завініў пісьманосец Іван, Раман ці Павал, а завініла пошта, якая маніла ад мяне заплату толькі за тое, каб я пасля нерваваўся. А на добры лад пошта павінна звярнуць мне аплату і пісьмо, ды яшчэ перапрасіць.

Дарэчы, ці нельга было б правесці „нітачку“ з Беластока ў Кляшчэлі і выявіць, хто і чаму выкідае нашыя пісьмы?!

**Васіль Петручук**

## ПУСТАЗЕЛЛЕ НА АБОЧЫНАХ ДАРОГ

15 чэрвеня гэтага года ехаў я асфальтаванай шашою, якая бяжыць праз чатыры гміны: **Заблудаўскую, Міхалоўскую, Нараўчанскую** і **Гайнаўскую.** На пабочынах гэтай рухлівай дарогі расло ўсялякае пустазелле ды высокая трава. Здарылася так, што выскачыў з густой купіны травы неасцярожны малады кот. Яму аднак пашанцавала. Загінуў усё-такі пераляканы заяц, які так і рынуўся пад самыя колы.

**(яц)**

## ЧАМУ ЎСЮДЫ ЦЁМНА?

Прыехаў я ў Відава. На вуліцы цёмна — на слупах не гарыць ніводная лямпачка. Заехаў у Катлы — і там тое самае.

— Чаму ў вас так цёмна? — пытаюся я ў сваёй хроснай маці.

— Праўда, цёмна, — кажа яна. — Страх уначы на вуліцу выйсці. Быў у нас мужчына з электроўні. Казаў, што гміна не мае чым плаціць за вулічнае асвятленне, дык адключылі.

Што ж гэта робіцца? Чаму ўжо так абяднела гміна? Ці ж войт не ведае, што цемра — гэта рай для зладзеяў? У вёсках ёсць жа яшчэ крамы! І іх могуць жа абрабаваць поцемку!

**Андрэй Гаўрылюк**



## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Тыкоцін.*
*Мал. У. Петрука*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**(8)**

Камуніст не можа быць беларусам — неадчэпнае ўражанне ад гутарак з афіцыёзнікамі ў Мінску. У гэтай ідэалогіі няма паняцця айчыны. Яна глабальная і, калі выступае ў ёй элемент бацькаўшчыны, дык не болей, як рэгіянальная афарбоўка (т. зв. спецыфіка) на сусветным малюнку сацыяльнага раю. Нешта падобнае і ў хрысціянстве, якое ў такім аспекце магчыма трактаваць, бы антытэзу камунізму. Сакратары партыі і святары ідэнтычна абыякавыя да беларушчыны, з інцыдэнтальнымі толькі адступленнямі ад гэтага рэагавання.

У сёлетні верасень пачне абавязваць вярхоўны ўказ аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў Беларускай ССР. Але не заўважаецца падрыхтоўчых работ да пуску ў ход так важнага юрыдычнага акта. Яго значэнне пакуль што зводзіцца да ціхай панікі ў народзе, якога даўно адзвычаілі ад сваёй мовы, накінуўшы яму „язык коммунизма“ (тэрмін папулярызаваны нябожчыкам Хрушчовым). Беларуская мова і культура былі інтэрпрэтаваны як перашкода камуністычнаму будаўніцтву і таму рэдукавалі яе да музейнага экспаната ў выглядзе інтэлігенцкай паказухі на несвядомы стану справаў свет. Для чытэльнага нам тут параўнання скажу, што паралельнай ілюстрацыяй таго ёсць т. зв. беларускія ліцэі ды школы ў Беласточчыне. З беларускім патрыётам вядуць у іх гаворку прыблізна так, як некалі шляхціц з ксяндзом на латыні... Сярод вучнёўства і педагогаў буіць ды шуміць пальшчызна, і, калі хто часам выдушыць са сваіх духоўных вантробаў нейкае роднае слоўка, дык не іначай, як пад маральным шантажом. Мала сказаць, што наш патрыятызм стаўся смешным. Ён ужо незразумелы!

Дайшлі, як гаворыцца, да ручкі. І з такім, з дазволу сказаць, здабыткам хочам ісці ў Еўропу. Спадзяемся шанавання для сябе, інфанты культуры!

Ізноў вяртаецца ў памяць адваротнай кінастужкай невялічкая падзея тая ў Купалаўскай бібліятэцы поблізу Камароўкі: — абступілі Разанава, Бэмбеля і мяне чытачкі з просьбай даць аўтограф. Потым я зразумеў, што жадалася ім не столькі памяткі ад пісьменнікаў, колькі якраз нагоды нагаварыцца ў ахвоту „на мове“. Параз'язджаліся начнымі цягнікамі да сваіх месцаў пражывання ды працы ў каланіяльных гарадах — хто ў Брэст, хто ў Гародню, а хто ў Гомель. Там яны надалей беларускія дзівачкі ў рускамоўнай „нармальнасці“. Белыя вароны ў Антыбеларусі.

У анкалагічным шпіталі канаў Юры Семяняка, нацыянальны кампазітар (а і сваяк мой). Яго жонка Ліля тлумачыла пра нейкі надзвычайны проціракавы сродак у Польшчы, і я нешта абяцаў... Гэта была адна з тых безнадзейных размоваў, у якой абое ведаюць, што цуду не будзе. Праз месяц пасля я прачытаў у тыднёвай „Літаратуры і Мастацтве“ ўжо некралог пра Яго, складзены ў той агідна-казённай стылістыцы, якой начальства развітвае шматгадовага служаку. Юрка заслужыў на больш людское слова, але яно пакуль што не прабіваецца ў масавы друк. У лісце да ўдавы я на прамілы Бог прашу абараняць менавіта беларускую памяць аб Ім.

**(Працяг будзе)**

## НА ГРАБАРЦЫ, НЕКАЛІСЬ

**(Працяг са стар. 1)**

вала стужкі, якія людзі панавязвалі на крыж распяцця Ісуса Хрыста.

Каля сталоў, дзе пісаліся запіскі „за здароўе“ або „за упакой“ — таксама чэргі.

Хто прыехаў са сваёй палаткай, той спаў пад ёю, іншыя драмалі пад хустамі або пледамі на лаўках.

Я села каля старэйшых людзей. Якраз каля нас праходзіў хлопец у вопратцы лесніка, з медалямі на грудзях, босы.

— Бачыце, — штурхнуў мяне мужчына, — ён закончыў універсітэт і захварэў. Шкада хлопца.

Я трохі падрамала, а потым пайшла на першую літургію. У царкоўцы і вакол яе поўна народу. Мне ўдалося ўціснуцца ў святыню. Прастаяла да канца літургіі. Прычашчаліся на двары. Пяць чараў для прычасця і да кожнай велізарная чарга. Яблыкі, іконкі бацюшка свяціў наперамену. Усё гэта зацягнулася недзе да шостай ураніі.

Дзень быў цёплы і сонечны. Я пайшла да гандляроў і купіла тое-сёе. Вяртаючыся назад, я ўбачыла пачэплены на дубе верш „Ніва“, напісаны рукою. Нейкі Мікола Білокозовіч пісаў, што не любіць „Ніву“, бо яна не друкуе на яго мове, а яго мова „е даўня як Кіеўська Русь“.

Абыйшла я могілкі і выйшла на дарогу, каля якой стаялі палаткі і прыватныя самаходы. І зноў убачыла пісульку: „Любі свой народ, не тому, що він добры, а тому, що він твій“.

На пероне стаяла мноства людзей. Калі прыйшоў цягнік, ледзь здолела ўціснуцца ў вагон.

Ад'язджаючы, я вельмі шкадавала, што не маю з сабою ні кінакамеры, ні хоць фотаапарата. Колькі здымкаў можна было зрабіць сабе на памяць!

**Аўрора**




Палітычныя перамены ў нашай краіне рашуча ўплываюць на змены ў гаспадарчым жыцці. У зменenай эканамічнай сітуацыі даводзіцца дзейнічаць і жыллёвым кааператывам. Аб гэтым папрасіў я расказаць намесніка старшыні Жыллёвага кааператыва „Сонечны Сток" у Беластоку **Юрыя Паўяновіча.**

*— Ахарактарызуйце, калі ласка, ваш кааператыў!*

— Нашаму кааператыву споўнілася ўжо дзесяць гадоў. Ахоплівае ён сваёй дзейнасцю тры пасёлкі: Сонечны Сток, Зялёныя Узгоркі і Лясная Даліна, у якіх пражывае ўжо 30 тысяч чалавек (прадбачваецца, што лік жыхароў дасягне 50 тысяч). Кааператыў здаў у карыстанне на працягу свайго існавання 7200 кватэр. 60 прац. кватэр члены кааператыва выкупілі на ўласнасць. У чарзе запісана 11 тысяч чалавек. У гэтым годзе прапануем нашым членам толькі 550 кватэр, на многа менш, чым у папярэдніх гадах (раней паяўлялася і па 800 кватэр).

*—У мінулым кватэры былі адносна танныя. Людзі наракалі, што трэба доўга чакаць кватэры, шукалі спосабаў паскарэння моманту атрымання ключоў. Ці сёння, калі кватэры значна падаражэлі, у далейшым будзе столькі ж ахвотных на самастойнае жыллё?*

— Кватэры становяцца таварам, які можна будзе купіць. Для гэтага будуць патрэбныя грошы і то не малыя. Апошнім часам значна павялічыўся кошт квадратнага метра жылля і перавышае нават 2 мільёны злотых, калі яшчэ ў пачатку 1989 г. каштаваў усяго 110 тысяч злотых. Гэта можа стаць фінансавым бар'ерам для ахвотных купіць кватэру. Але зараз не наглядаем, каб людзі адмаўляліся ад надзеленых ім кватэр. Заўважаем аднак, што людзі, якія хацелі памяняць кватэру на большую, зараз ад гэтага адмаўляюцца з увагі на кошт новых кватэр. Праблемай для навасёлаў з'яўляюцца цяпер працэнты ад крэдытаў, якія даводзіцца ім плаціць пасля атрымання кватэры. Складаюць яны 55 — 70 працэнтаў чыншу кватэрнай платы. Напрыклад, у чыншы 6466 злотых за квадратны метр жылля аж 4546 зл. гэта сплата крэдытаў і працэнтаў ад іх.

*— Што цяпер найбольш перашкаджае жыллёваму будаўніцтву?*

— Да нядаўна жыллёвыя кааператывы карысталіся нізкапрацэнтнымі банкавымі крэдытамі і дзякуючы таму будавалі. Зараз вельмі цяжка банкавымі крэдытамі пакарыстацца. Камерцыйныя банкі не хочуць даваць крэдытаў на будаўніцтва. Толькі ПКО (Паўшэхная ашчадная каса) дапамагае нам, наколькі ім хапае грошай.

У гэтым годзе мы не пачалі **яшчэ будаваць** новыя блокі. Зараз працягваем работу на тых будоўлях, якія пачалі ў мінулым годзе. Хочам будаваць, але паколькі цяжка прыходзіцца банкавы крэдыт, хочам гэтае рабіць за грошы членаў кааператыва, якія стаяць у чарзе на кватэру. Тым, хто адабрае такую форму будаўніцтва, прапануем уплаціць аднаразова 10 працэнтаў коштаў кватэры (8—10 мільёнаў злотых) і тады мы зможам пачаць будову. А калі ў далейшым будуць клопаты з крэдытамі, тады за грашыма будзем зноў звяртацца да членаў.

Кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва павінна быць галоўнай крыніцай, якая забяспечыць насельніцтва жыллём, але аднак пры большым фінансавым удзеле членаў кааператываў. А сёння зарплаты ў людзей даволі нізкія.

*— А што робіць ваш кааператыў, каб панізіць кошты будаваных кватэр?*

— Зараз працуем над тым, каб будаўніцтва ў нашым кааператыве было самае таннае. Шукаем таннейшых тэхналогій, адмаўляемся ад дарагога панель-

**(Працяг на стар. 7)**




Калі б нехта запрапанаваў мне назваць сярод маіх добрых знаёмых імя найбольш сціплага чалавека, я, несумненна, назвала б Веру Папову, „ніўскую" шматгадовую лінатыпістку. Гэта яе рыса характару ўплывае на яе неапраўданую сарамлівасць, на недаацэньванне ўласнай асобы, на ахвоту застацца недзе ў цені падзей.

Але гэта зусім не перашкаджае Веры быць моцна адданай справе, у якую верыць, мець свае нязломныя перакананні, свой погляд на жыццё, якому не адзін чалавек можа пазайздросціць.

Вера Папова да канца ліпеня працавала ў друкарні, складаючы (даслоўна з кавалкаў свінца) нашу газету. Складала ад пачатку яе існавання, ад першага, нават пробнага нумара. Была адной з апошніх магіканак, прасядзеўшы над пультам беларускага лінатыпа роўна столькі, колькі гадоў выходзіць „Ніва" (працуе яшчэ наша карэктарка Валя Жэшка, якая прыйшла ў „Ніву" таксама ў 1956 годзе, у трэцім месяцы яе выдавання). Вера лічылася працаўніцай друкарні, бо так яно і было. Але справамі нашай рэдакцыі Вера пераймалася не менш, чым мы, як быццам усе нашы клопаты і турботы былі яе ўласнымі, асабістымі. Заўсёды прасталінейная і шчырая, прытым вельмі імпульсіўная, яна нікому з нас не магла дараваць нейкага недагляду, недакладнасці. Гэтак сама адносілася і да сябе самой. А трэба ж ведаць, што ў рукі лінатыпіста першага трапляюць „ніўскія" артыкулы. Вера заўсёды была першым нашым чытачом, і ёй далёка не абыякава было, якое ўражанне зробяць гэтыя матэрыялы на нашых чытачах.

У нас з Верай даўно ўжо існаваў няпісаны дагавор, што нашы тэксты да яе могуць трапляць са значна большай колькасцю паправак, чым гэтага вымагала права друкарні. Так датрывала і да апошніх дзён. І гэтая яе мяккасць, цярпімасць да нашых машынапісаў была, мабыць, выклікана не толькі тым, што Вера добра ведала мову, але і тым, што добра разумела нас, — гэта ж яна ў першыя дні і месяцы, калі пачала толькі выдавацца „Ніва" 35 гадоў назад, праседжвала разам з карэктарамі, журналістамі і галоўным рэдактарам цэлыя ночы, каб толькі газета паявілася на час, каб чытач ніколі не даведаўся, з якімі мукамі даваліся калектыву рэдакцыі першыя яе нумары. Аб тых першых, ды і пазнейшых, вельмі цікавых гадах працы нашай рэдакцыі піша цяпер свае ўспаміны яе арганізатар і шматгадовы галоўны рэдактар „Нівы" Георгі Валкавыцкі (маем надзею, што гэтыя ўспаміны праз год-два выйдуць друкам). А Вера была і ёсць адной з нас, сяброўкай, якая 35 гадоў свайго жыцця аддала нашай газеце.

Усяго ў друкарні Вера прапрацавала 41 год. Пачынала 16-гадовай дзяўчынкай. Паходзіць з вядомай у друкарскім асяроддзі сям'і Сахараў (дзядзька родны, цётка і два дваюрадныя браты былі працаўнікамі друкарні, якія размнажылі друкарскія варштаты па ўсім ваяводстве).

З падбеластоцкіх Зачарлянаў Вера прыехала жыць у Беласток у 1946 годзе. Вучылася ў беластоцкай падставоўцы на вуліцы Кіеўскай. Там у той час яшчэ навучалася беларуская мова. А як толькі скончыла школу, дзядзька прывёў яе ў беластоцкую друкарню. Пачала працаваць у інтралігаторні і адначасова вучыцца. Потым перайшла на лінатыпы, польскія лінатыпы. Так працавала да 1956 года, да часу, калі пачала арганізоўвацца „Ніва".



**Вера за пультам лінатыпа. 60-я гады.**

Тады паклікаў яе дырэктар і запытаў:

— Ты па-беларуску чытаць умееш?

— Умею, — адказала.

Пераканаўшыся, што гэта не пустыя словы, дырэктар перавёў Веру на беларускі лінатып. Быў гэта пачатак 1956 года, а 26 лютага выйшаў пробны нумар „Нівы", прысвечаны І З'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства. 4 сакавіка выйшаў тады ўжо афіцыйны першы нумар „Нівы".

А потым ужо пабеглі дні за днямі. Гадзін працы ніхто не лічыў, абы выйшла газета, абы ўдалося ўсё так, як было запланавана. І Вера цешылася разам з „ніўцамі" кожнай удачай, кожным добрым цікавым і патрэбным матэрыялам.

І вось прыйшоў час развітацца з працай. 41 год на адным месцы, амаль пры адным лінатыпе. У цяжкіх друкарскіх умовах, пагражаючых цяжкімі хваробамі (асабліва алавіцай). Здароўе ўжо не тое, ва ўмовах крызісу і агульнага непарадку здаюць нервы. Трэба было б адпачыць. Але з цяжкім сэрцам развіталася Вера з сябрамі, з любімай працай. Здавалася, нарэшце можна адпачыць, а сіла прызвычаення цягне яе ў друкарню, дома няма спакою, проста, як кажа, дома не ўседзець. Відаць, не так лёгка адарвацца ад усяго таго, што ўсе дарослыя гады былі яе жыццём, яе пасіяй, яе душой.

Цяпер, калі ў Веры ёсць час, яна часцей заходзіць у нашу рэдакцыю. І вельмі ж нам прыемна, што Вера далей лічыць нас сваімі сябрамі, што не абрыдлі мы ёй за столькі гадоў супольных змаганняў над кожным нумарам, што хоча яна нас бачыць. А ведаючы яе сарамлівы надмерна характар, калі яна не адважвалася прыйсці ў рэдакцыю нават на нейкую ўрачыстасць, калі мы яе так сардэчна прасілі, тым больш нам міла. Бо з Верай нашай ужо так ёсць: доўгая ў яе дарога барацьбы з уласным характарам, але затое яе шчырасць і сардэчнасць бязмерная.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота з архіва**

 

# МОТАКРОС У ДУБІЧАХ



*Дапамагала арганізатарам і гайнаўская паліцыя.*

У апошнюю нядзелю ліпеня над залівам у Дубічах-Царкоўных адбыліся трэція раённыя спаборніцтвы матацыклістаў пад назвай „Дубічы-Царкоўныя '90".

Арганізатарамі сёлетняга мотакросу былі ўлады гміны ў Дубічах-Царкоўных (гмінная рада, асяродак культуры, войт гміны, гмінны асяродак спорту і адпачынку, мясцовы пастарунак паліцыі), а таксама Мотаклуб і ЛОК у Гайнаўцы.

Мэта спаборніцтваў была даволі шырокая.

Мясцовыя ўлады вырашылі зацікавіць насельніцтва гміны займацца спортам, навучыць моладзь актыўна адпачываць, а пры нагодзе прапагандаваць і папулярызаваць спорт і турыстыку ў сваім асяроддзі, а таксама павышаць культуру і бяспечнасць дарожнага руху сярод маладых матацыклістаў.

На конкурс сабралася моладзь з розных мясцовасцей. Былі ўдзельнікі з Кляшчэляў, Старога Корніна, Арэшкава, Чаромхі, Гайнаўкі, Стрыкоў і іншых. Праграма прадбачвала не толькі крос на матацыклах, але таксама праверку ўмення абмінаць перашкоды, дакладнасці ў прыспешванні і тармажэнні. Былі таксама ў іх езды такія атракцыі, як стралянне з вінтоўкі, а таксама плаванне на час на лодках.

Старт удзельнікаў пачаўся ад тэарэтычнага экзамена па пытаннях дарожнага руху. Кожны атрымаў па тры пытанні, а за добрыя адказы ўдзельнікам прызнаваліся прызавыя секунды, якія потым былі адлічаны ад часу праезду ў кросе.

Пасля экзамена кожны ўдзельнік бег да лодкі, праплываў на лодцы пятлю па заліве, а выскачыўшы на бераг, хуценька надзяваў каску, ускокваў на матацыкл і вымушаны быў праехаць вызначаную адлегласць на час.

Але якіх толькі хітрыкаў ды перашкод не прыдумалі арганізатары, каб матацыкліст мог выказаць увесь свой спрыт! Трэба было пасляхова праехаць у нізенькія варотцы (1,4 м вышыні), каб не скінуць папярэчкі, пакруціцца ў слаломе паміж хітра расстаўленымі сцяжкамі, зрабіць матацыклам цесную пятлю, а потым і васьмёрку, перакладваць прадметы з рукі ў руку, са слупка на слупок, праехаць праз кладку-гушкалку і іншае. І ўсё гэта на час! За ўсе памылкі матацыклісты атрымоўвалі карныя секунды.

Забава і прыемнасць былі вялікія. І не толькі для ўдзельнікаў, але і для нас, гледачоў, можа, перш за ўсё. Паўдня спорту і забавы на свежым паветры, сярод сяброў і пад наглядам апекуноў і спецыялістаў — гэта вельмі карысная і патрэбная справа для моладзі, асабліва для маладых аматараў-матацыклістаў.

І не важна, хто быў першы. Хоць і гэта лічыцца. Тым больш, што першай узнагародай была бліскучая чорная, вельмі модная цяпер матацыклетная каска фірмы „Bella„ — мара многіх матацыклістаў (каштуе сёння каля 200 тысяч злотых). Былі і іншыя рэчавыя ўзнагароды і дыпломы. Важна, што людзі прыемна і весела правялі час, нечаму навучыліся, многія спрабавалі свае сілы і ўменне.

Віншуем пераможцаў і арганізатараў. Было гэта ўданае мерапрыемства.

**Яніна Чарнякевіч**
**Фота аўтара**



*Трасу кроса закончыў Яраслаў Вапа з Кляшчэляў.*



*Апошні матацыкліст заканчвае спробу на дакладнасць затрымання.*

**ЯЎГЕНІЯ ШЫМЧУК**

# СТАНОВІШЧА БНР НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

**(Пачатак у № 31)**

Украіна была першай дзяржавай, якая афіцыяльна прызнала БНР. Было гэта 8 чэрвеня 1918 г. Яшчэ раней былі наладжаны консульскія адносіны. Консулам БНР у Кіеве стаў П. В. Трэмповіч, а ўкраінскім консулам у Мінску быў А. М. Квасніцкі. Беларускае консульства было таксама ў Адэсе.

Паступова развівалася гаспадарчае супрацоўніцтва. У Кіеве была арганізавана Гандлёвая палата па абмену таварамі. Быў падпісаны дагавор на пастаўку ўкраінскай мукі, цукру і мыла за беларускія лесаматэрыялы, дрэва, запалкі. Дагавор прызналі немцы, якія абяцалі забяспечыць гэтыя тавары ад рэквізіцый на чыгунцы.

Ад Украіны БНР атрымала значныя грашовыя пазыкі. Місія Цвікевіча і Доўнар-Запольскага атрымала 300 тысяч рублёў. У верасні 1918 г. у Кіеве пабывала другая місія БНР у складзе: Я. Варонка, А. Луцкевіч, А. Аўсянік і Н. Лазарэвіч. Найбольшым дасягненнем гэтай дэлегацыі была пазыка 4 млн. рублёў у гетмана Скарападскага. Ёсць поўныя весткі яшчэ пра адну місію БНР на Украіну, у горад Роўнае, які знаходзіўся пад уладай Дырэктарыяту. Спецыяльны кур'ер вёз А. Луцкевічу справаздачу аб гэтай паездцы і 1 млн. рублёў. Польскія службы яго затрымалі і ўсё адабралі.

Ценем на добрых адносінах паміж БНР і УНР леглі, нажаль, тэрытарыяльныя спрэчкі. 9 лютага 1918 г. у Брэсце УНР і Германія падпісалі дагавор, які прызнаваў Украіне частку паўднёвых беларускіх земель, м. інш. Гомельскі, Пінскі, Кобрынскі паветы і частку Пружанскага. БНР, зразумела, не пагадзілася з гэтым. У справе граніцы вяліся перагаворы, аднак да згоды не дайшло.

Прабавала БНР наладзіць адносіны і з Савецкай Расіяй. Імкнулася да таго, каб азнаёміць рускую савецкую ўладу са сваёй дзейнасцю і дабіцца прызнання факту адлучэння Беларусі ад Расіі і яе права на самавызначэнне. Аднак, Савецкая Расія, якая так многа гаварыла аб праве нацый на самавызначэнне, прызнаць БНР і не думала. Не адказвала на мемарыялы і ноты, якія БНР слала расійскаму ўраду. У лістападзе 1918 г., калі капітулявала Германія, тагачасны прэм'ер-міністр БНР А. Луцкевіч яшчэ адзін раз спрабаваў дагаварыцца з Масквой. Ён паехаў да Леніна з прапановай стварыць у Мінску ўрад, у які ўвайшлі б прадстаўнікі сацыял-дэмакратаў з боку БНР і беларускіх камуністаў. Аднак, маскоўскія перагаворы не былі завершаны.

Хаця РСФСР не прызнавала БНР, у Маскве дзейнічаў беларускі консул Аляксандр Бурбіс. Консульскія прадстаўніцтвы БНР былі таксама ўстаноўлены ў Растове-на-Доне, на Паўночным Каўказе (у Стаўраполі), Латвіі, Эстоніі, у чэшскай Празе. Апрача таго, былі арганізаваны дыпламатычныя місіі ў Берлін, Капенгаген (Данія), Берн (Швейцарыя), у Варшаву — да ўрада Рэгенцыйнай Рады, у Вільню — да Літоўскай Тарыбы і ў Парыж.

У Парыжы ад 18 студзеня 1919 г. праходзіла мірная канферэнцыя. Яна вялася пад лозунгам права нацый на самавызначэнне. Таму прыехалі туды прадстаўнікі народаў, якія толькі пачыналі будаваць сваю дзяржаўнасць і першы раз хацелі загаварыць на міжнароднай арэне. Гэта была канферэнцыя для „вялікіх". Таму дэлегацыі народаў Грузіі, Эстоніі, Літвы, Латвіі, Паўночнага Каўказа, Украіны, Беларусі і другіх не атрымалі статусу афіцыяльных удзельнікаў.

Ад імя Беларусі як акрэсленай тэрыторыі выступалі тры дэлегацыі: урада БНР, літоўская (у



 

 




# Кватэры становяцца таварам

(Праця́г са стар. 5)

нага будаўніцтва. Пастаўшчык буйнабетонных панелей, Фабрыка дамоў у Беластоку (манапаліст у гэтай галіне ў ваяводстве), вельмі дорага прадае нам свае прадукты і тады кошт аднаго квадратнага метра кватэры даходзіць да 1900 — 2400 тысяч злотых. Будзем вяртацца да традыцыйных і таннейшых тэхналогій. Пры прымяненні порыста-пустацелай цэглы (пустакоў) кошт аднаго квадратнага метра складае ўжо толькі 1350 тыс. злотых. Арганізуем аўкцыёны, на якіх выбіраем самых танных і найбольш для нас выгадных будаўнікоў. Пры гэтым усім імкнемся не пагоршыць стандарт кватэр.

Дбаем таксама пра тое, каб паменшыць выдаткі на адміністрацыю кааператыва. Абмяжоўваем лік працаўнікоў і ўводзім камп'ютэрнае абслугоўванне. Рэгістрацыю членаў і разлічэнне чыншаў праводзіць ужо камп'ютэр.

*— Ваш кааператыў вылучаўся багатай грамадска-выхаваўчай працай. Ці ў складаных эканамічных умовах кааператыў зможа яшчэ весці такую дзейнасць?*

— На грамадска-выхаваўчую працу адлічаюцца грошы з чыншаў. На сходах жыхароў, якія праводзіліся вясною, ніхто не аспрэчваў патрэбу такой дзейнасці. Мы намераны далей працягваць яе для дзяцей і дарослых, перш за ўсё ў дамах культуры. Будзем старацца на некаторых формах дзейнасці (напрыклад, курсы замежных моў ці аэробік) зарабіць грошы, каб аплаціць настаўнікаў ці інструктараў. На грамадскіх пачатках стала дзейнічаць пасёлачная тэлевізійная студыя „Сонечная ТВ", а яе працу арганізуюць пражываючыя тут журналісты Беластоцкага радыёвяшчання. Хочам падтрымаць гэтую ідэю і намерваемся купіць патрэбнае для гэтага абсталяванне і апаратуру.

*— Вясною гэтага года праводзілася перавыбары ўлад кааператываў. Амаль ва ўсіх памяняліся кіраўніцтва. Вы і ваш шэф, Сяргей Плева, асталіся на сваіх пастах. Сведчыць гэта аб тым, што з'яўляецеся добрымі кіраўнікамі, спецыялістамі ў сваёй галіне. Скажыце, як зараз складваецца супрацоўніцтва з грамадскімі органамі кааператыва?*

— На сакавіцкім вальным сходзе прадстаўнікоў кааператыва былі нам паўторна даручаны нашы функцыі. Гэта сапраўды з'яўляецца доказам даверу. Супрацоўніцтва праўлення кааператыва з радамі складаецца добра. Разам з кантрольнай і пасёлкавымі радамі, а таксама з Таварыствам развіцця Сонечнага Стоку імкнемся інтэграваць жыхароў вакол іх патрэб, ствараць магчыма найлепшыя умовы ў месцы пражывання.

Гутарыў **В. Луба**



*На пасёлку „Сонечны Сток" у Беластоку.* *Фота Я. Целушэцкага*

склад якой уваходзіў беларускі прадстаўнік — Дамінік Сямашка) і польскіх абшарнікаў (якая прабавала даказваць польскасць Беларусі).

Першую ноту Рада БНР накіравала старшыні Парыжскай канферэнцыі 9 лютага 1919 г. Гэта быў пратэст супраць дзейнасці польскага ўрада, які імкнуўся да анексіі беларускіх зямель. Рада БНР паказвала такія факты, як абвяшчэнне ў некаторых беларускіх паветах (Гародня, Беласток, Бельск) выбараў у польскі парламент, мабілізацыя ў польскае войска ў гэтых жа паветах, стварэнне атрадаў самаабароны Літвы і Беларусі. Усе гэтыя дзеянні, даказвалі аўтары ноты, былі супярэчныя з інтарэсамі беларусаў і іх правам вырашаць свой лёс.

Дэлегацыя Беларускай Народнай Рэспублікі выехала ў Парыж у канцы лютага 1919 г. У яе склад увайшлі Антон Луцкевіч — тагачасны старшыня Рады Міністраў БНР і міністр замежных спраў палкоўнік Яўген Ладноў. Якія задачы сталі перад імі? Першая — гэта атрымаць прызнанне БНР ад дзяржаў Антанты. Другая — атрымаць гаспадарчую і фінансавую дапамогу для Беларусі.

Перш за ўсё трэба было звярнуць увагу палітыкаў дзяржаў Антанты на тое, што Беларусь з'яўляецца не часткай Расіі, а самастойнай краінай. Для іх гэта былі праблемы амаль зусім не знаныя. Вялікі „нацыянальны кацёл", якім аказалася была царская Расія, быў чымсьці неспадзяваным, нечаканым. Таму перш за ўсё беларуская дэлегацыя разгарнула актыўную інфармацыйную і прапагандысцкую дзейнасць. А. Луцкевіч быў вельмі актыўны. Ён сустракаўся з многімі палітыкамі, тлумачыў, распаўсюджваў рэзалюцыі і інфармацыйныя брашуры пра Беларусь. У гэтай дзейнасці вялікую ролю адыграла петыцыя, падпісаная А. Луцкевічам і Л. Зайцам, накіраваная да Старшыні канферэнцыі. У ёй была прадстаўлена гісторыя Беларусі ад IX стагоддзя, а таксама многа было сказана аб дасягненнях апошніх месяцаў у справе нацыянальнага адраджэння беларусаў. Аўтары петыцыі ў заканчэнні даказвалі, што незалежнасць Беларусі без міжнароднага забеспячэння немагчымая і таму прасілі падтрымкі і пашаны.

Беларускія прадстаўнікі ў Парыжы супрацоўнічалі з дэлегатамі другіх народаў, якія ўваходзілі ў склад былой царскай Расіі. Гэта было неабходна, таму што моцную пазіцыю займала там Расійская Палітычная Канферэнцыя. Яна не дапускала думкі аб магчымасці падзелу былой Расіі. Усе яе акцыі бачна назіралі дэлегаты Беларусі, Украіны, Літвы і іншыя і хутка рэагавалі на іх, дамагаючыся прызнання сабе незалежнасці.

Калі ў чэрвені 1919 г. армія Дзянікіна наехала на каўказскія рэспублікі, прадстаўнікі Эстоніі, Латвіі, Літвы, Украіны, Беларусі, Грузіі, Арменіі і Каўказа выслалі пратэст да дзяржаў Антанты, у якім звярталі ўвагу на парушэнні правоў каўказскіх народаў. 18 чэрвеня 1919 г. дэлегаты гэтых жа народаў прадставілі канферэнцыі супольную дэкларацыю, у якой дамагаліся прызнаць зараз ім незалежнасць. Гэта было пасля таго, калі Антанта думала пра дапамогу Калчаку і атрымала ад яго ноту, у якой ён заявіў, што Расія згодзіцца толькі на незалежнасць Фінляндыі і Польшчы.

Гэткія супольныя выступленні даказалі, што народы былой Расіі не згаджаюцца быць далей яе паднявольнымі.

*(Заканчэнне будзе)*

# НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**11. Дзеяслоў[1].**

Дзеяслоў — гэта часціна мовы, якая абазначае дзеянне або стан прадмета і адказвае на пытанне **што рабіць? (што зрабіць?, што робіцца?).**

Дзеясловы могуць абазначаць:

— фізічнае дзеянне: **баранаваць, жаць, малаціць,**

— рух, перамяшчэнне ў прасторы: **бегчы, ехаць, ляцець,**

— мову і думку: **апавядаць, гутарыць, думаць,**

— стан: **кахаць, радавацца, спаць,**

— змену прыметы ці стану: **зелянець, спялець, цямнець.**

Дзеяслову характэрны наступныя марфалагічныя катэгорыі: пераходнасці-непераходнасці, стану, трывання, ладу, часу, асобы, ліку і роду (прошлы час, умоўны лад).

Дзеяслоў мае спрагальныя і неспрагальныя формы. Спрагальнымі з'яўляюцца асабовыя формы дзеяслова, а неспрагальнымі — інфінітыў, дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе.

Спрагальныя формы дзеяслова выконваюць у сказе ролю выказніка (прэдыката) і таму часта называюцца прэдыкатыўнымі: Неўзабаве зноў **загаворыць** зямля на зялёнай мове лістоў. (Барад.); У сэрцы халодным ніколі **не зайграюць** жыцця галасы. (Бал.); **Не шукай** ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі. (Куп.)

Дзеепрыметнікі выступаюць у сказе пераважна ў функцыі азначэння: Праз **расчыненыя** вокны ў хату залятаў свежы вецер, **насычаны** мядовым пахам расцвіўшага пад вокнамі бэзу. (Хадк.), або выказніка: Дзень залаты цёплым сонцам **заліты.** (М.Т.).

Дзеепрыслоўі выконваюць сінтаксічную функцыю акалічнасцей: Вавёркі спрытна зрываюць сухія шышкі ды, **спяшаючыся,** нясуць у свае гнёзды. (Як.).

Інфінітыў можа выступаць у ролі любога члена сказа: **дзейніка: Вучыцца** ніколі не позна. (Пр.), **выказніка:** Жыццё **пражыць** (дзейнік) — не поле **перайсці** (выказнік; Пр.), **азначэнне:** У Васіліны ўзнікла раптоўнае жаданне **раскрыць** сваю задуму. (Хадк.), **дапаўнення:** І паўтараю першы крок штодня, вучуся зноў **хадзіць** і **размаўляць.** (П.М.), **акалічнасці:** Прыходзілі ўначы **пажывіцца** горкай крушынай асцярожныя зайцы. (Сам.).

Дзеясловы кіруюць скланяльнымі часцінамі мовы, якія выступаюць у сінтаксічнай функцыі дапаўнення або акалічнасці: **жаць жыта, капаць бульбу, пісаць пісьмо, прыехаць поездам, прыехаць з вёскі, легчы на спіну.**

Да дзеясловаў могуць прымыкаць прыслоўі: **пісаць старанна, слухаць уважліва, цягнуць моцна.**

**Інфінітыў (неазначальная форма дзеяслова)** — абазначае дзеянне ці стан, не паказваючы на асобу і час. Інфінітыў з'яўляецца зыходнай формай дзеяслова. Ён можа быць пераходным або непераходным: **пісаць** (апавяданне), **чытаць** (кнігу), **ехаць, ісці, сядзець;** незваротным або зваротным: **апранаць — апранацца, здзіўляць — здзіўляцца, радаваць — радавацца.** Інфінітыву характэрна таксама катэгорыя трывання: **асвяжаць — асвяжыць, браць — узяць, гаварыць — сказаць, рабіць — зрабіць.**

У беларускай мове інфінітыў мае суфіксы: **-ць, -ці, -чы.** Залежаць яны ад асновы дзеяслова. Суфікс **-ць** далучаецца да асновы на галосны гук: **бега-ць, крыча-ць, гавары-ць, прасі-ць,** суфікс **-ці** — да асновы на зычны: **вез-ці, нес-ці, плес-ці, скрэб-ці,** а суфікс **-чы** — да асновы, якая канчаецца заднеязычным **г.: бег-чы, лег-чы, стрыг-чы,** або да асновы на заднеязычны **к,** які выступае ў цяперашнім часе **(пяк-уць, таўк-уць),** а ў інфінітыве звычайна



 

НІНА ЯМЕЛЬЯНЮК

## ГУТАРКІ АБ МОВЕ

адсутнічае: **пя-чы, таў-чы;** толькі адзін дзеяслоў выступае ў двух варыянтах: **сек-чы — ся-чы.**

„У старажытнай мове зычныя [д], [т] перад [т] у выніку дысіміляцыі перайшлі ў [с]: **плесці <*плетти, цвісці <*цветти, месці <*метти, весці <*ведти, класці <*кладти.** ... Суфікс — **чы** ўзнік у старажытны час у выніку змянення заднеязычных [г], [к] і суфікса інфінітыва — **ти: бегчы <*бегти, валачы <*волокти, магчы <*могти** і г.д.“[2]

**Асновы дзеяслова.** Розныя дзеяслоўныя формы ўтвараюцца ад асновы інфінітыва або ад асновы цяперашняга часу дзеяслова.

**Аснова інфінітыва** — тая частка інфінітыва, якая астаецца пасля аддзялення інфінітыўных суфіксаў **-ць, -ці, -чы: крыча-ць, плес-ці, бег-чы.** Ад асновы інфінітыва ўтвараюцца:

— формы прошлага часу абвеснага ладу: **гавары-ць — гавары-ў, гавары-л-а,**

— формы ўмоўнага ладу: **піса-ць — піса-ў бы, піса-л-а б,**

— дзеепрыметнікі прошлага часу: **звез-ці — звез-ен-ы, зжа-ць — зжа-т-ы,**

— дзеепрыслоўі закончанага трывання: **папра-сі-ць — папрасі-ўшы, скасі-ць — скасі-ўшы.**

„У большасці дзеясловаў беларускай мовы аснова інфінітыва супадае з асновай прошлага часу: **піса-ць — піса-ў, піса-л-а, піса-л-і; бег-чы — бег, бег-л-а, бег-л-і; нес-ці — нёс, нес-л-а, нес-л-і; бра-ць — бра-ў, бра-л-а, бра-л-і.** Таму замест тэрміна „аснова інфінітыва“ ўжываецца тэрмін „аснова прошлага часу“.

Аснова інфінітыва можа не супадаць з асновай прошлага часу: **вес-ці — вё-ў, вя-л-а, вя-л-і; упас-ці — упа-ў, упа-л-а, упа-л-і.** У такім выпадку дзеяслоўныя формы ўтвараюцца не ад асновы інфінітыва, а ад асновы прошлага часу. Каб атрымаць аснову прошлага часу, трэба аддзяліць суфікс прошлага часу **-л-(-ў)** і асабовы канчатак. Напрыклад: **ся-чы — сек, сек-л-а, сек-л-і, сек бы, сеч-ан-ы, сек-шы; клас-ці — кла-ў, кла-л-а, кла-л-і, кла-ў бы, клаў-шы; плес-ці — плё-ў, пля-л-а, пля-л-і, плёў бы, плё-ўшы“.**[3]

**Аснова цяперашняга (будучага простага) часу** — тая частка дзеяслова 3-й асобы множнага ліку, якая астаецца пасля аддзялення канчаткаў **-уць (-юць), -аць (-яць).** Ад асновы цяперашняга (будучага простага) часу ўтвараюцца:

— асабовыя формы цяперашняга (будучага простага) часу абвеснага ладу: **няс-уць — няс-у, няс-еш, няс-е, няс-ём, няс-еце (нес-яцё); папрос-яць — папраш-у** (чаргаванне **с: ш**), **папрос-іш, папрос-іць, папрос-ім, папрос-іце,**

— формы загаднага ладу: **вяз-уць — вяз-і, вяз-ем, вяз-іце, няхай (хай) вяз-е (вяз-уць), малюй-уць — малюй, малюй-ма, малюй-це, няхай (хай) малюй-е (малюй-уць),**

— дзеепрыметнікі цяперашняга часу: **дрыж-аць — дрыж-ач-ыя** (галінкі); **бастуй-уць — бастуй-уч-ыя** (рабочыя),

— дзеепрыслоўі незакончанага трывання: **ід-уць — ід-учы; кос-яць — кос-ячы.**

---

[1] Літаратура: М. Ц. Кавалёва, А. К. Юрэвіч, Дзеяслоў, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф. М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 130—173; Беларуская мова пад рэд. А. М. Клачко, Мінск 1982, с. 241—269.

[2]. М. Ц. Кавалёва, ... с. 132.

[3]. Там жа, с. 134.




Дарагое Сэрцайка! Не ведаю, ці выпадае мне пісаць табе ў мае 45 гадоў, ал ж зразумей, што ў мае гады чалавек адчувае сябе яшчэ таксама жанчынай! А да таго ж, трэба дабавіць, што выглядаю я яшчэ някепска і частавата мужчыны ўзіраюцца на мяне. Ёсць у мяне шмат сяброў і сябровак, ды нават шмат маладзейшых, з якімі адчуваю я сябе вельмі добра. Працую ў культурнай установе, людзей збіраецца шмат і ўсе адчуваюць сябе як роўны з роўным. Як дагэтуль, ніколі я яшчэ не мела комплексаў з прычыны свайго ўзросту, аднак жа ў апошні час здарыліся факты, якія прывялі мне на думку сумныя рэфлексіі.

Мы з сяброўкай (яна на дзесяць гадоў маладзейшая за мяне, ды выглядае цудоўна і апранута надта па-сучаснаму) трапілі ў кампанію інтэлектуалістаў. Было вельмі весела і прыемна. Асабліва спадабалася я аднаму хлапцу гадоў трыццаці пяці. Праз гадзіну размовы вочы яго загарэліся. Ён гаварыў з натхненнем кампламенты мне, відаць было, што хацеў падабацца. Мне ж гэты хлопец быў зусім абыякавы, бо, хаця быў вельмі мілы ў адносінах да мяне, то асаблівай прыгажосцю не грашыў. Мо якраз тое, што быў ён мне абыякавы, прымушала яго яшчэ больш хадзіць каля мяне і рабіць добрае ўражанне.

У пэўным моманце адна жанчына з гэтай кампаніі запыталася ў мяне, ці я замужняя. Я адказала ёй, што ў маім узросце не выпадае ўжо ёю не быць. Тады было наступнае пытанне: ці маю я дзяцей? Я адказала, што маю двух сыноў. Жанчына была ўпартая і працягвала свае пытанні: а колькі старэйшаму? Угадайце, кажу. Ну, мо нейкіх дванаццаць, сказала яна даволі далікатна. Я ўсміхнулася на гэта і адказала, што ўжо 20. Наступіла канстэрнацыя. Хлапец, які так прымільна ўвіхаўся каля мяне, неяк раптоўна страціў зацікаўленне маёй асобай. У роце ў яго перасохла, ён апусціў вочы, а калі адкрыў іх, дык я ўбачыла, што яны перасталі блішчэць. Мне стала крыху няёмка, але ўголас я пачала падсмейвацца з яго і пытацца, чаму так раптоўна пагаслі яго вочы. Ён не меў чаго сказаць, але было відаць, што і ён адчуў сябе няёмка і, пасядзеўшы яшчэ мінут дзесяць, ён і яго сябра развіталіся з намі, пакінуўшы нам толькі тую няўрымслівую жанчыну.

І вось хачу ў цябе, Сэрцайка, запытацца: ці сапраўды, аб тым, чаго чалавек варты, маюць вырашаць яго гады? І ці жанчына ў старэйшым узросце не мае ніякіх шанцаў, каб быць яшчэ жанчынай у вачах мужчынскай грамадскасці, падаючы сумленна свой год нараджэння? Ды й ці наогул тая жанчына павінна была сябе так паводзіць, выцягваючы з мяне гэтыя факты?

**Вера**

Вера! Думаю, што жанчыне той было крыўдна, што той хлопец завіхаўся каля цябе, а не каля яе, яго ранейшай знаёмай. Вось і вырашыла асадзіць цябе, выцягнуўшы з цябе тваю „старасць“. Думаю, што калі б гэты хлопец цябе цікавіў сапраўды, ты сваіх гадоў так хутка не падсунула б. Паколькі ж быў ён табе абыякавы, вось ты і прызналася. Наогул у кампаніі такіх пытанняў, як задала табе тая жанчына, не задаюць, але і ты ж не мела абавязку на іх адказваць. Відаць, у некаторых выпадках, калі хочаш сябе адчуваць яшчэ жанчынай, варта паўстрымацца ад адказаў на няёмкія пытанні, абыйсці іх, мо нават не заўважыць. Жанчына наогул мае столькі гадоў, на колькі выглядае і на колькі адчувае сябе жанчынай. Ты ж замуж за таго хлопца не збіралася, праўда? Дык тым меншае ўсё гэта мае значэнне.

**Сэрцайка**




### БІТОЧКІ З БАРАНІНЫ

На паўкілаграма бараніны ўзяць 2 лыжкі алею, 1 лыжку шалфею, перац, 3 зубкі часнаку, паўтары лыжкі мукі або цертай булкі, шмалец.

Мяса ачысціць, памыць, нарэзаць упоперак валокан, збіць малатком кожную порцыю і нацерці часнаком, расцертым з соллю, пасыпаць раскрышаным шалфеем і змазаць алеем. Пакінуць у халодным месцы на гадзіну, а пасля абсыпаць кожную порцыю мукой ці цертай булкай. Падсмажыць, кладучы на патэльню з разагрэтым шмальцам. Падсмажаныя з абодвух бакоў біткі пасаліць і дасмажыць пад пакрыўкай на невялікім агні. Палажыць на талерку, абłажыць навокал вараным гарохам. Упрыгожыць лісткамі салаты, падаваць з часнаковым соусам.

### СПАРЖОВАЯ ФАСОЛЯ

На 75 дэкаў спаржовай фасолі ў струках (жоўтай ці зялёнай), трэба ўзяць 25 дэкаў пячурыц, 4 крутыя яйкі, 3/4 шклянкі татарскага соусу, 3 зубкі часнаку, соль, перац і цукар па смаку, лімонны сок, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Спаржовую фасольку памыць, зняць з яе валокны, абрэзваючы абодва канцы кожнага струка. Ачышчаныя струкі парэзаць на кавалкі даўжынёю каля 1 см, укінуць іх у гарачую і пасоленую ваду, зварыць, астудзіць, адцадзіць. Пячурыцы ачысціць, памыць вельмі дакладна, асушыць і дробна пасячы, спырскваючы адначасова лімонным сокам. Перамяшаць з астуджанай фасолькай і соусам. Дадаць дробна пасечаны часнок і зялёную пятрушку. Заправіць па смаку соллю, перцам, цукрам і лімонным сокам. Гатовую салату палажыць на талерку, а навокал яе палажыць частачкі крутых яек.

### ЦВЯТНАЯ КАПУСТА

На 1 вялікую цвятную капусту трэба ўзяць 2 шклянкі малака, 1 лыжку масла, 2 лыжкі мукі, 2 жаўткі, 15 дэкаў пікантнага сыра, соль, цукар і перац па смаку.

Вялікі качан цвятной капусты пачысціць, памыць, палажыць у кіпячую ваду, у якую дадаем соль і цукар. Варыць некалькі мінут у адкрытым посудзе, пасля накрыць і даварыць. Адцадзіць. Палажыць на вогнетрывалы посуд і заліць соусам, падрыхтаваным наступным чынам. Растапіць масла, перамяшаць з прасеянай мукой, развесці халодным малаком, мяшаючы, давесці да кіпення. Соус перамяшаць з жаўткамі і 10 дэкамі цертага жоўтага сыра. Заправіць соллю і перцам. Залітую соусам цвятную капусту пасыпаць рэшткай сыра і запячы ў гарачай духоўцы. Падаваць з булкамі.

**Гаспадыня**




Дарагі Астроне! Устрывожыў мяне сённяшні сон. Я прачнулася, а сэрца стукала моцна са страху. Снілася, што знаходжуся я на вёсцы, на панадворку сваёй хаты, дзе прайшло маё дзяцінства і маладосць, а цяпер асталася толькі адна мама. На панадворку бачу нейкіх людзей, варожа да нас настаўленых. Я хутка ўбегла ў сені нашай хаты, хачу зачыніць дзверы, сілкуюся, але не ўдаецца мне гэта. Ужо амаль зачыніла, а яны ізноў назад адчыняюцца, нешта мне перашкаджае. Тады я гляджу, а там на парозе нейкае адзенне, ці анучы нейкія накладзены, а наверсе бляшкі з булкамі, якія мама напякла і паставіла, каб хутчэй яны астылі. Я хацела іх адсунуць, але калі дакранулася, бляшкі захісталіся і некалькі булачак зваліліся на зямлю, а гэтыя хлопцы ўжо ў хату ўвайшлі. Я шукаю маму, убягаю ў пакой, а яна спіць у пасцелі. Я крычу: „Мама, мама!“ А мама толькі на другі бок перавярнулася і далей спіць, як бы і не чула майго крыку. А ззаду за мной гэтыя хлопцы стаяць. Я дрыжу са страху, аж тут невядома адкуль паміж імі і мной паявіўся мой бацька (не жыве ўжо). Выглядаў прыгожа: прыстойны, высокі, у шапцы, з лёгкай усмешкай на вуснах, падаў мне руку, але хутка яе забірае і падсоўваецца да мамы. Мне аж прыкра, што так мала трымаў маю руку, і тут я прачнулася. Астроне, што можа абазначаць гэты дзіўны сон? Вельмі непакоюся і прашу, адкажы як найхутчэй.

**Ірына**

Ірына! Людзі настаўлены да цябе варожа... Кепска. Хочаш зачыніць перад імі дзверы, але табе гэта не ўдаецца, дзверы ўвесь час адчыняюцца на небяспеку. Ты ў сувязі з гэтым баішся... Думаю, што спаткае цябе нейкае расчараванне і непрыемнасць. На анучах, якія маглі б абазначаць нейкую нажыву, стаялі бляшкі з булкамі — а булкі заўсёды абазначаюць беднасць. Маці ў пасцелі (мо і хвароба нейкая), ды бацька, хаця і нябожчык ён, абазначаюць нейкія клопаты. Каб хаця, не дай Божа, не забраў ён маці да сябе...

**Астрон**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Дзіцячы фальклорны ансамбль „Зорачка“ (яго невялічкая частка) з Рэспубліканскага палаца піянераў у Мінску.*

# З КАНЦЭРТАМ У ГОСЦІ

Із-пад каменя, із-пад белага
Цячэ рэчанька, цячэ быстрая...

Гэтай, вельмі прыгожай беларускай народнай песняй пачаўся канцэрт на дошках гміннага асяродка культуры ў Орлі, які дала група моладзі з Мінска, прыехаўшая сюды на адпачынак.

10-асабовая групка беларускай моладзі — гэта толькі невялічкая частка велізарнага, 80-асабовага, найлепшага ў Мінску дзіцячага фальклорнага ансамбля „Зорачка“, які працуе вось ужо 27 гадоў пры Рэспубліканскім палацы піянераў у Мінску.

Гэты ансамбль, натхнёны вядомым збіральнікам народных песень і выключным знаўцам беларускага фальклору Генадзем Цітовічам, глыбока і творча заняўся беларускай народнай творчасцю. У калектыве распрацоўваюцца народныя песні і танцы, сабраныя навуковымі ўстановамі Беларусі. Над зборам фальклору з самых народных глыбінь працуюць і самі члены і кіраўнікі калектыву. Такім чынам у рэпертуар ансамбля трапляюць такія самабытныя песні, як „Гуканне вясны“, „Шчодры вечар“, „Сонейка яснае“, „А ў лесе, лесе...“, „Як хадзіла Маша па садочку“ і іншыя. З народных танцаў гледачам спадабаліся іскрыстая гродзенская полька „праз нагу“, розныя кадрылі, суправаджаныя заахвочваючымі заклікамі тыпу:

А хто з танцамі сябруе,
Той ніколі не сумуе...

А як дудачку пачуюць
Самі ножкі затанцуюць і г.д.

Да песень і танцаў прыйігрывала народная капэла, а ў ёй беларускія цымбалы, гармонік, скрыпка, дудка, бубен, а таксама звычайны вясковы пранік.

(Працяг на стар. 10)



*Танцуюць і спяваюць салісткі „Зорачкі“.*

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Уладзімір Мазго

### КАЛЫХАНКА ЮЛІ

Люлі-люлі-люлі!
Лялькі ўсе паснулі,
Хітры кот і мышкі,
Тэлевізар, кніжкі.
Спіць матуля, тата,
Сны люляе хаты.

Хай прысняцца Юлі
Зайчык і зязюля,
Сонца, казкі-гулі,
Мілы твар матулі.
Прыйдуць да пястушкі
Травы, дрэвы, птушкі...

Толькі бомбы, кулі
Хай не сняцца Юлі.

### ЗОРКА Ў СТУДНІ

Ірка
Ў студню зазірнула:
Зорка
Ў студні патанула...
Журавель
Дастаў вядзерца —
Зорка
Ў воблаках смяецца.

Рыгор Барадулін

### ДЗЕ НАБЫЦЬ?

Прыскакаў у краму конік:
— Дзе набыць
мне парасонік?
Не вялікі,
Не маленькі,
Каб я мог схаваць каленкі
І, вядома, галаву,
Як паваліць дождж траву.
Ці такі,
Як у стракоз,
Плашч,
Каб не баяцца рос?

Скача ў краму
Ён штодзённа,
Ды стараецца дарма —
Ні плашча,
Ні парасона
У зялёнага
Няма.

Мікола Чарняўскі

### КАГО БАІЦЦА ЗУБР?

— Зубр, ты ў пушчы —
Гаспадар.
Зубр, ты ў пушчы —
Уладар.
А скажы,
Прызнайся, дружа.
Моўчкі ўбок не адыходзь:
Ці каго баішся дужа,
Ну, не дужа —
Трошкі хоць?

Чмыхнуў зубр,
Падумаў,
Потым
Шумна выдыхнуў:
— Янота !

— Ой, янота?
Кпіш ты, мусіць?
Гэткага
Не можа быць!..
— Як хаджу,
Заўжды баюся
На янота наступіць!

(Працяг са стар. 9)

# З КАНЦЭРТАМ У ГОСЦІ

якім выбіваюць дабяла ручнікі на рэчцы, рубель, ручныя кросны, званочак ды іншыя народныя прылады, якія вельмі цікава кампануюцца ў музычны аркестр.

Усе ўдзельнікі былі вельмі прыгожа апрануты — кожны артыст прадстаўляў адзенне аднаго з рэгіёнаў Беларусі. Можна было пабачыць народнае адзенне Міншчыны, Гродзеншчыны, Гомельшчыны, Віцебшчыны і іншыя. Цудоўна вышываныя і гафтаваныя блузкі і фартухі, вельмі арыгінальныя галаўныя ўборы — ад звычайных паясочкаў — скіндачак да рознага роду вяночкаў і нават упрыгожанняў на галаву з саломкі.

Цікавым нумарам праграмы быў момант, калі тры прыгажуні сыйшлі са сцэны і запрасілі да танца трох мясцовых хлопцаў-гледачоў. Запрасілі на спакойны вальсік. Але найвесялей зрабілася, калі аркестр раптам змяніў спакойны вальсавы рытм на заліхвацкую польку. Як пачаліся скокі, як узяліся танцоры за выкручванне розных хітрых каленцаў! Што рабілася! Расскакаліся пары, публіка шалела ад захаплення! Воплескам і бравам не было канца. А нашыя хлопцы яшчэ раз даказалі, што і яны не лыкам шытыя, што ўмеюць паказаць сябе, калі надыйдзе хвіліна. Ды і танцуюць, як аказалася, яны заліхвацка.

Такія ж канцэрты адбыліся яшчэ ў Чыжах, у Беластоку (для дзяцей, якія ад'язджалі на адпачынак у БССР), у Крывяцічах і іншых мясцовасцях.

Апекавалася дзецьмі з ансамбля мастацкі кіраўнік усяго калектыву Маргарыта Іванова. Маладая і прыгожая, яна амаль не адрознівалася ад сваіх выхаванкаў і, калі здарылася пільная патрэба, сама выйшла на сцэну ў народным адзенні, каб замяніць захварэўшую салістку.

Як жа ж гэтыя здольныя дзеці апынуліся ў Орлі?

Прыехалі яны ў супольнай групе, разам з дзецьмі з Мінскага завода халадзільнікаў на запрашэнне школы ў Орлі.

Варта тут прыпомніць, што група дзяцей са школы ў Орлі і Пашкоўшчыны ў мінулым годзе была запрошана на Беларусь. Там іх тады вельмі гасцінна сустрэлі прадстаўнікі рэспубліканскай станцыі юных турыстаў. І адразу пачаліся экскурсіі. Пабывалі яны тады на гістарычных месцах старой Гародні, наведалі памятныя месцы па Багдановічу, Элізе Ажэшка, сустрэліся з вядомай беларускай паэтэсай Данутай Бічэль-Загнетавай. Затым пабывалі ў Навагрудку, па міцкевічаўскіх шляхах паехалі на возера Свіцязь. Там далі свой канцэрт (у групе быў калектыў „Зярняткі" з Пашкоўшчыны) выхаванкам дзіцячага дома, ды так з тымі дзецьмі пасябравалі, так расчуліла іх сустрэча, што ўсе свае падарункі, што везлі з сабою, тым дзецям і пакінулі. Потым быў Мінск, прыём у таварыстве „Радзіма". Жылі на Рэспубліканскай станцыі юных турыстаў. Вяртаючыся, наведалі Брэсцкую крэпасць. Па дарозе заехалі таксама ў школу, з вучнямі якой раней перапісваліся. Вялікае ўражанне на дзяцей зрабіла сустрэча з настаўнікам Алесем Белакозам, які расказваў дзецям вельмі цікавыя рэчы з нашай гісторыі, уводзіў у таямніцы прыроды, гаварыў аб сваіх вопытах у лячэнні розных хвароб крэмневай вадою і інш.

Рэвізітам на гэтую экскурсію і быў цяперашні прыезд дзяцей з Мінска. Разам з дзецьмі былі таксама прадстаўнікі Рэспубліканскай турбазы дырэктар Сяргей Мітраховіч і Людміла Таўчыгрэчка. Быў таксама прадстаўнік таварыства „Радзіма" Уладзімір Пішчака.

У Орлі дзеці сталаваліся ў школе, а жылі па вясковых хатах, там, дзе ёсць свае дзеці ў школьным узросце. Арлянцы прынялі сваіх гасцей вельмі сардэчна, прынялі ў найлепшыя хаты, абсталяваныя вельмі сучасна, па-гарадскому. А дзеці з Орлі праводзілі з мінчанамі свой вольны час.

Галоўным апекуном гасцей быў дырэктар школы Анатоль Мартыновіч. Дзякуючы школе і дырэктару, дзеці мелі ўсё неабходнае, нават школьны аўтобус у сваёй дыспазіцыі, што вельмі аблегчыла іх паездкі па Беласточчыне.

У прыём гасцей уключыліся ўсе арлянцы. Дырэктар Гміннага асяродка культуры Ілья Адзіевіч гасцінна адчыніў дзверы сваёй уласнай хаты. Там быў цэнтр пабыўкі ансамбля „Зорачка". Тут большасць членаў калектыву і начавала, і рыхтавала касцюмы, і тут нават праводзіліся рэпетыцыі. Мясцовы СКР прыдзяліў са сваіх фондаў грошы на патрэбы дзяцей — 150 тысяч злотых, а ГС — 100 тысяч злотых. Ад імя арганізатараў, а таксама дзяцей сардэчна дзякуем ім за гэта.

У час пабыўкі ў Польшчы дзеці з Мінска наведалі Варшаву, Беласток, пабывалі ў Супраслі, дзе пазнаёміліся з помнікам нашай культуры — Супрасльскім манастыром і саборам, пабывалі ў Багоніках — цэнтры татарскай культуры ў Польшчы і ў іншых мясцовасцях.

Маем надзею, што гасцям спадабалася на нашай гасціннай Беластоцкай зямлі. Магчыма, што яны аб сваіх уражаннях падзеляцца яшчэ ў пісьмах да сваіх новых сяброў, з якімі пазнаёміліся ў Орлі.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**




* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты-3, ул. Лаптевых, 7. Крикун Светлане. 7 клас.

* * *

СССР, 163009, г. Архангельск, ул. Пушкина, 28, к. 2, кв. 11. Обрядиной Наде. 13 гадоў.

* * *

БССР, 220065, г. Мінск-65, вул. Авакіяна, 36, к. 1, кв. 35. Саша Бандаровіч, 7 клас.




## БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР

**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

Стары майстар Сцяпан Станюк, якому Францішкава маці расказвала пра сапсаваны абрус, другім разам, калі да яго прыбег хлопчык, падаў яму кавалак даламіту:

— Так і быць, вырэзвай форму, вывьем табе пячатку сапраўдную, медную. Ведаеш, як трэба вырэзваць?

— Цяпер ведаю! — вочы Францішка загарэліся. — Трэба ўсе літары выразаць наадварот. Тады на пячатцы яны будуць правільныя, — упэўнена, як добра вывучаны ўрок, адказваў Скарына.

Увечары, калі адлілі пячатку, Францішак, засопшыся, прыбег дадому. Выняў аркушык паперы і, узяўшы свечку, на полымі курадыміў пячатку і адбіваў: Францыск Скарына, Францыск Скарына, Францыск Скарына... Словы роўненька клаліся ў радкі.

„Вось каб убачыў Кукша", — падумалася хлопчыку.

Кукша быў першы Францішкаў настаўнік, манах са Спасава манастыра. Як хораша расказваў ён пра Ефрасінню Полацкую, унучку Усяслава Чарадзея, асветніцу. Нібы сам ведаў яе. „Вось табе і жанчыны! — дзівіўся ён. — Назаві мне яшчэ ў якім княстве такую... Ды ў тыя часы... Чатырыста гадоў таму назад... Тады і мужчын — добрых кніжнікаў — можна бадай усіх пералічыць на тых пальцах, што хрысцяцца..."

Кукша ўзнёсла расказваў, як маладая князёўна, 12-гадовая Прадслава, выраклася княжацкага жыцця. Ёй апрыкралі войны, якія часта вялі тады між сабою Полацк, Кіеў, Ноўгарад, войны, дзе ваявалі не землі — ворагі, а землі — браты. З-за княжацкай пыхі бязвінна лілася кроў простых людзей. І Прадслава ўцякла туды, куды толькі і магла ўцячы яна тады ад бацькі-князя — у манастыр.

Там яна ўзяла імя Ефрасіння і занялася перапісваннем кніг. Складала Полацкі летапіс, пісала вершы, перакладала з грэчаскай мовы. Арганізавала школку. А якую бібліятэку сабрала!

Пасля звабіла да сябе сваю малодшую сястру Гарыславу і стрыечную Звеніславу.

Перапісваў кнігі і Кукша. Доўга сядзеў над аздобаю іх. Ён увёў Францішка ў таямніцы сіняга, зялёнага, чырвонага чарніла... З гэтага перапісвання Кукша і аслеп. Доўга прыкладаў ліпавыя лісты да павек, думаў, адыдуць вочы. Але так і не адышлі.

Францішак і не згледзеў, як цэлая старонка была запоўнена радкамі. І так хутка — аж сам здзівіўся. Цэлая друкаваная старонка!

Бацька, учуўшы, што сын нечым ляпае па стале, адарваўся ад сваёй рахунковай кнігі: што там сын робіць? Падышоў да стала, узяў у рукі аркушык.

— А ведаеш, сыне... Ёсць акурат такія кнігі, не пісаныя, а друкаваныя. І не на нашай мове... Але іх па-другому адбіваюць, ці, як кажуць тыя немцы, друкуюць...

— А як? — нецярпліва спытаў Францішак.

— Гэтага я не ведаю, сыне. У сакрэце трымаюць. Вялікая загадка гэта...

**Працяг будзе**
**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына")**

### Вершы Віктара Шведа

**ТАТА НЕ ПУСКАЕ З ХАТЫ**

На падворак дзеці,
Дзе гуляюць штодзень,
Клічуць з хаты Пецю,
А ён не выходзіць.

— Мне рашае тата
Хатнія задачы.
Не пускае з хаты,
Калі нават плачу.

**СУСЕД ВІНАВАТЫ**

— Вось перасцярога, —
Тата сынка лае, —
Суседа старога
На ты называеш.

— Я не вінаваты!
Хочаш — пабажуся.
Дык жа першы, тата,
Ён на ты звярнуўся!

**МАЕ МАКАР МНОГА МАР**

— Я заўжды мару свет пазнаць,
Хаця б Еўропы палавіну.
Ды колькі будзе каштаваць
Мая паездка па краінах?

Як споўніць мне хоць
частку мар,
Калі так грошыкаў нямнога?
— Мары бясплатныя, Макар,
Нам не каштуюць анічога.






Паглядзі на карцінку і хуценька скажы, ці хопіць усім птушачкам штыкецін у плоце. А цяпер правер, ці правільна адгадаў.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

## РОЗНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ

Пажылы мільянер у рэстаране даў афіцыянту „на чай“ 50 цэнтаў.

— Дзякуй, — сказаў той, — але ваш сын больш шчодры, чым вы. Кожны раз ён дае мне па 2 долары.

— Сын можа сабе гэта дазволіць, а я — не, бо ў мяне няма такога багатага бацькі.

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### НЕ КУВАЙ ТЫ, ШЭРАЯ ЗЯЗЮЛЯ

*Словы М. Багдановіча*
*Музыка М. Равенскага*

Не кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары:
Мо і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.

Бо не тое сведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.

Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці ж тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.




# НІЎКА



## АФАРЫЗМЫ

І будзь тут мудрым, калі дурань стаіць на дарозе.

*

Палохаў іншых, але баяўся сам сябе.

*

Бедныя тыя маткі, якія калышуць дзяцей сваім неспакоем.

*

Па ўсмешцы людзей можна пазнаць грамадскія настроі ў не адной дзяржаве.

*

Будзь шчыры, а будзеш адзінокі як палец.

*

Гісторыя вучыць людзей: зло праігрывае пад плашчом дабра.

*

Калі думаеш, што „лепшы верабей у жмені, чым...“, дык яго злаві.

*

Не аднаму каменем ляжыць на сэрцы „другі бок“ медаля.

*

Зямлю сшываюць масты і рэйкі; дзякуючы ім няма адкрытых ран.

**Андрэй Гаўрылюк**

## КУКУРУЗА

Амерыканцы прызямліліся на Марсе. Захапляючыся краявідамі, сталі яны складаць планы асваення планеты:

— У гэтым месцы пабудуем новы Нью-Йорк, а там стане Дыснейленд. А за гэтым кратэрам будзе атамная электрастанцыя...

У гэты момант, быццам з-пад зямлі, з'яўляецца марсіянін, і, усміхаючыся, кажа:

— О, не! Тут ужо былі істоты падобныя на вас і гаварылі: здесь всё будет кукуруза.

## КОКА-КОЛА

Устрывожаны экіпаж амерыканскага касмічнага карабля звязваецца з Зямлёй:

— Увага, на Месяцы прызямлілася савецкая экспедыцыя і пачынаюць маляваць планету чырвонай фарбай! Што нам рабіць?

З Зямлі адказваюць:

— Спакойна наглядаць!

Праз нейкі час члены экіпажа зноў паведамляюць:

— Ужо палавіну Месяца памалявалі чырвоным!!!

З Зямлі зноў адказваюць:

— Спакойна наглядаць.

Праз два дні амерыканскія касманаўты дакладваюць:

— Усё прапала! Увесь Месяц замаляваны чырвоным!

З Зямлі на гэта чуецца такі адказ:

— Не хвалюйцеся! З Фларыды высылаем вам ракету з банкай белай фарбы. Зрабіце надпіс „Кока-кола“.

## ТЫДЗЕНЬ

Колькі часу спатрэбіцца амерыканцам, каб даляцець на Месяц?

— Тыдзень.

— Чаму?

— Бо савецкай візы трэба чакаць шэсць дзён.

## ПАРОДЫІ

### ПЕРШААДКРЫЦЦЁ

*На седале вурчалі зябка куры*
*Пра творы думаў я літаратуры.*
**Анатоль Грачанікаў „Творчая смеласць“**

О, куры, куры! Вас апець я мушу,
Бо вы заўжды хвалюеце мне душу.
І раздражняеце вы мне мой творчы смак,
Калі я ем з курацінай панцак.
Кладуцца гладка рыфмы у суквецце,
Калі вы гуртам крочыце на смецце.
А пад крылом як длупаецеся, куры,
Тады вылузваюся, здэцца, я са скуры,
Бо разганяеце ж вы мне мой ціхі сон
І думкі нашы згодна, ва ўнісон
Накіраваны у адзін кірунак:
Знайсці які б прыроды падмацунак,
Як і са смакам вы усе з'ясцё,
А мне ён будзе творчым адкрыццём.

**Мікола Грыцан**




# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чарнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28, Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— wrzesień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1075/90